# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.*

№ 14 (95). 1 — 7 красавіка 1999 г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 20 тыс. руб.


## Узлюбленыя браты і сёстры!

У гэты Вялікодны дзень жадаю Вам, каб Хрыстос Уваскрэшшы апрамяніў Ваш твар і душу сваёй радасцю, святлом, надзеяй і любоўю!

Няхай у гэты дзень усе радуюцца, бо гэта радаснае свята Уваскрэшання Хрыстова — свята перамогі дабра над злом.

**Айцец Вітольд Жэльветра, ксёндз-дэкан касцёла св.Андрэя**

## Выборы без выбора

**Координационная рада демократических сил Беларуси утвердила текст листовки, которую планирует распространить накануне выборов в местные Советы, назначенные на 4 апреля.**

«Мы не пойдем на выборы без выбора!» — таков основной лозунг листовки. Ее авторы заявляют, что «власти превратили выборы в местные Советы в фарс», поскольку «независимые кандидаты, которые не боятся бороться за простых людей, не были зарегистрированы подчиненными властям избирательными комиссиями». Таким образом, утверждается в листовке, «в бюллетене останутся только угодные властям кандидаты, готовые служить начальству, а не народу». Координационная рада заявляет, что не собирается принимать участия в «спектакле, устроенном для обмана народа».

Свои подписи под текстом листовки поставили председатель Белорусской социал-демократической партии (Народная Громада) Николай Статкевич, лидер Объединенной гражданской партии Станислав Богданкевич, вице-президент Конгресса демократических профсоюзов Виктор Ивашкевич, председатель Национального исполнительного комитета (теневого правительства) Геннадий Карпенко, бывший судья Конституционного суда Беларуси Михаил Пастухов и координатор гражданской инициативы Хартия'97, бывший заместитель министра иностранных дел Беларуси Андрей Санников.

**БелаПАН**

## Не проголосуешь — не получишь вина!

## Навіны

### Напад на штаб Чыгіра

**30 сакавіка ў 11.30 раніцы супрацоўнікі беларускіх спецслужбаў паспрабавалі ўварвацца ў Мінскую штаб-кватэру кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра.**

Гэты факт карэспандэнту "ГС" падцвердзіў у тэлефоннай размове супрацоўнік выбарчага штабу Чыгіра Цімафей Дранчук. Ён сказаў, што група невядомых асоб ламала дзверы ў кватэру і патрабавала іх адчыніць. У гэты час усе падыходы да будынка кантралявалі супрацоўнікі спецслужбаў. Праз гадзіну, верагодна, атрымаўшы загад начальства, "штурмавікі" з'ехалі.

А ў другой палове дня Чыгір у прымусовым парадку быў дастаўлены ў следчае ўпраўленне МУС у якасці сведкі па справе нявернутых крэдытаў "Белаграпрамбанка", дзе ён у свой час быў упраўляючым.

**Наталля ФУРСАВА**

### Мусульманскае свята

**Слонімскія мусульмане 28–31 сакавіка адзначылі адно з галоўных сваіх свят — Курбан-Байрам (свята ахвярапрынашэння).**

Па традыцыі Курбан-Байрам пачаўся са святочнай малітвы ў мячэці, дзе прысутнічалі 50 чалавек, у тым ліку прадстаўнікі ад кіраўніцтва татар Беларусі і аб'яднання "Аль-Кітаб".

Пасля вернікі наведалі слонімскія мусульманскія магілкі, дзе ўшанавалі сваіх продкаў.

**Сяргей ЁРШ**

### П'юць школьнікі

**Настаўнікаў Зэльвеншчыны хвалюе праблема п'янства сярод школьнікаў.**

Толькі ў гэтым навучальным годзе ў стане алкагольнага ап'янення ў міліцыю было дастаўлена восем школьнікаў, а таксама пяць вучняў з Ялувіцкай, Бародзіцкай і Славаціцкай сельскіх школ.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Вярнуліся з узнагародамі

**У Светлагорску прайшоў трэці тур рэспубліканскага конкурсу выканаўцаў на народных інструментах імя І.І.Жыновіча, у якім прынялі ўдзел юныя музыканты са Слоніма.**

За выдатнае музыкальнае майстэрства журы ўзнагародзіла Ганаровымі граматамі Насцю Іванашка (баян), Івана Клыбіка (цымбалы), Валерыя Шымчака (акардэон) і Сяргея Яззэпчука (домра).

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Пракуратура дзейнічае

**Пракуратура Мастоўскага раёна распачала службовае расследаванне ў адносінах да раённай выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

Справу вядзе памочнік пракурора Лілія Васілеўская. Усе сябры камісіі былі выкліканы для гутаркі ў пракуратуру.

**Антон МАКЕЙ**

## "Якая музыка, такія і танцы"

Здаецца, найлягчэй праводзіць розныя выбары, рэферэндумы, заявы працоўных "у падтрымку" на вёсцы. Вядома, калі такія мерапрыемствы афіцыйныя і санкцыянiраваныя ўладамі.

Будучы ў сваім Востраве, разгаварыўся з мацi-пенсіянеркай пра выбары ў мясцовыя Саветы 4 красавіка. Як умеў, давёў ёй пра немэтазгоднасць, непатрэбнасць такіх выбараў пры цяперашнім становішчы ў краіне. Выслухаўшы мяне, маці кажа: "Ведаеш, сынок, якая музыка , такія і танцы. Ты вось не хочаш жыць, як усе, таму нічога і не маеш. А мы прагаласуем за свайго кандыдата...", — Пытаюся, за якога гэта свайго, хто ён? — Не ведаю, — кажа, — хто там будзе ў бюлетні, але за каго трэба, за таго і прагаласуем..."

Тое, што вясковая пенсіянерка не ведае свайго кандыдата ў дэпутаты — цалкам зразумела. Сёння многія не ведаюць нават старшыню сельсавета, бо ні дэпутат, ні старшыня сельсавета праблемы вяскоўцаў не вырашаюць. Соткі на бульбу; дзялку сена, будматэрыялы і нават труну нябожчыку — усё трэба прасіць у старшыні калгаса ці, як кажуць, у праўленні. А ў сельсавеце, калі і могуць чым дапамагчы, дык толькі выпісаць якуюсь паперку-даведку.Навошта, здавалася б, наогул, патрэбен такі савет? Людзі гэта разумеюць, як добра разумеюць і тое, што якога б кандыдата ў дэпутаты яны цяпер не выбралі — ніякай карысці ад яго не будзе. Але на выбарчыя ўчасткі пайдуць і прагаласуюць "за каго трэба". І зробяць яны так не таму, што "народ наш цёмны", як любяць часта паўтараць дэмакраты. Народ не цёмны. Проста людзі больш не вераць у добрыя намеры ўладаў, не вераць яны і апазіцыі. А на выбарчыя ўчасткі пайдуць, каб "не цкаваць сабаку, каб не было яшчэ горш". Тактыка вядомая: мы зробім, як вы хочаце, толькі нас не чапайце.

Вяскоўцы жывуць з верай толькі ў свае сілы і зямлю-карміцельку. Ад таго, які будзе ўраджай, які прыбытак ва ўласнай гаспадарцы — залежыць дабрабыт сялянскай сям'і. Да калгаснага ладу прызвычаіліся, нават з мізэрнымі заробкамі змірыліся, бо не з іх жывуць. А выбары там розныя, рэферэндумы — "якая музыка, такія і танцы".

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## Сяргей Ёрш — лаўрэат літаратурнай прэміі

У літаратурным музеі Янкі Купалы ў Мінску адбылася цырымонія ўзнагароджання ПЭН-цэнтрам сёлетніх лаўрэатаў літаратурнай прэміі імя Францішка Багушэвіча. Яе атрымалі Таццяна Процька, Іван Саверчанка з Мінска і супрацоўнік нашай "Газеты Слонімскай" Сяргей Ёрш. Ганаровую прэмію, дыплом і медаль ён атрымаў за кнігу "Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі", якая выйшла з друку ў Мінску ў мінулым годзе.

Беларускі ПЭН-цэнтр узначальвае народны пісьменнік Васіль Быкаў. Літаратурная прэмія імя Францішка Багушэвіча была заснавана тры гады назад. Яна прысуджаецца адзін раз у год за творы гістарычнай прозы, якія таленавіта і праўдзіва адлюстроўваюць невядомыя старонкі гісторыі нашай Бацькаўшчыны.

Калектыў "ГС" шчыра віншуе Сяргея Ярша з узнагародай і жадае яму творчых поспехаў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Заглянем на рынок

цены (в тыс.руб.)

| | 14.02 | 28.03 | | 14.02 | 28.03 |
|---|---|---|---|---|---|
| лимоны | - | 400 | масло сл. | 280 | 300 |
| апельсины | 250-270 | 290 | творог | 60 | 70 |
| яблоки свежие | 100-180 | 180 | яйца (1дес.) | 95-100 | 130 |
| морковь | 30 | 35-40 | картофель | 15 | 28 |
| лук | 130 | 130 | свекла | 30 | 20-25 |
| мед нат. (1кг.) | 800 | 1млн. | пшеница | 15 | 30 |
| свинина | 450 | 470 | ячмень | 14 | 25 |
| сало | 320 | 320 | говядина | 350 | 400 |
| молоко | 15 | 20 | поросята (1пара) | - | 7-8млн. |
| сметана | 120 | 100-120 | | | |

## Курсы валют

по состоянию на 30.03.99 г. (в тыс.руб.)

| | USD | | DEM | | RUR | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| *Филиалы* | *Пок.* | *Прод.* | *Пок.* | *Прод.* | *Пок.* | *Прод.* |
| "Беларусбанк" | 295,0 | 300,0 | 162,0 | 165,0 | 12,0 | 12,3 |
| "Белагропромбанк" | 300,0 | – | 164,0 | 165,0 | 11,7 | 12,2 |
| "Приорбанк" | 330,0 | – | 180,0 | – | 13,0 | – |
| "Белпромстройбанк" | 295,0 | 300,0 | 164,0 | 165,0 | 12,2 | 12,3 |
| Курс "черн. рынка" | 340,0 | 355,0 | 185,0 | – | 13,0 | – |

# КАНДЫДАЦКІЯ АБЯЦАНКІ-ЦАЦАНКІ...

Праз некалькі дзён адбудуцца выбары дэпутатаў у мясцовыя Саветы. У сувязі з гэтым амаль усе крамы, установы і аўтобусныя прыпынкі Слоніма абклеены лістоўкамі кандыдатаў у дэпутаты. Улёткі, як і ў былыя савецкія часы, надрукаваны па адзінай форме і ўсе аднолькавага памеру. А вось тэкст іх розны. Я набраўся цярпення і вырашыў азнаёміцца з праграмамі некаторых кандыдатаў. І шчыра прызнаюся, што нічога падобнага я раней не чытаў. Высвятляецца, што будучыя дэпутаты сапраўдныя "настрадамусы", людзі здольныя і актыўныя. Не верыце? Тады азнаёмцеся з тым, што яны абяцаюць, калі стануць дэпутатамі.

Вось, напрыклад, намеснік начальніка раёна электрасетак Ганна Армяноўская: "учитывая высказывания многих слонимчан, буду добиваться, чтобы в 1999 году обновить дорожное покрытие улицы, связывающей город с кладбищем...".

А Мікалай Сыантовіч, начальнік ЖЭС-2, "...обеспечит спокойный отдых населения" і для решения этой проблемы привлечёт "опорный пункт милиции и отряды дружинников...".

Войцех Угрыновіч, намеснік старшыні гарвыканкама, "при избрании депутатом обязуется обеспечивать открытость в работе...". Трэба меркаваць, што тады "Газета Слонімская" абавязкова атрымае любую інфармацыю, якая цікавіць нашага чытача.

Фёдар Мядзведзеў, намеснік начальніка аддзела крымінальнай міліцыі, будзе "бороться против экономии на воспитании и здоровьи наших детей". Добрая справа, нічога больш і не скажаш.

Мікалай Радзівонік, намеснік дырэктара аўтарамонтнага завода, будзе аддаваць "приоритет — человеку". Ён кажа, што "любит людей и считает, что даже в самом "запущенном" человеке есть что-то хорошее".

Віктар Уласеня, настаўнік СШ №9, будзе "оказывать внимание и всевозможную помощь... семьям, находящимся в кризисных или конфликтных ситуациях".

Канстанцін Зубко, дырэктар жыллёва-камунальнай гаспадаркі абяцае, што "при необходимости избиратели могут обращаться к нему для решения ритуальных услуг...". Вось так.

Алег Бярдула, дырэктар мясакамбіната "основным направлением своей депутатской деятельности считает... насыщение города продуктами питания".

Значыць, галоднымі не будзем.

**Міхась АКУЛКА**

# "Я ЎБАЧЫЎ ШМАТ СУПЯРЭЧНАСЦЯЎ..."



**Як ужо паведамляла "ГС", слонімская міжрайпракуратура праводзіць паўторнае расследаванне па факту смерці ў снежні 1997 года ў медвыцвярэзніку Алега Дэйкі. Адным з прадстаўнікоў інтарэсаў Марыі Дэйка, маці загінуўшага, у пракуратуры з'яўляецца юрыст Алег Волчак.**

**Алег Волчак — дэпутат мінскага гарадскога Савета, старшыня юрыдычнага грамадскага аб'яднання "Прававая дапамога насельніцтву". У мінулым ён — старшы следчы пракуратуры Фрунзенскага раёна г. Мінска, расследаваў больш 100 крымінальных спраў. Алег Волчак згадзіўся адказаць на пытанні карэспандэнта "ГС".**

***— Алег, чаму Вы вырашылі займацца "справай Дэйкі"?***

— Паўгода назад да мяне звярнуліся Марыя Аляксееўна Дэйка і дэпутат слонімскага гарсавета Міхась Варанец, якім патрэбна была кансультацыя па гэтай крымінальнай справе. Калі я вывучыў дакументы, якія мне прадставіла Марыя Дэйка, убачыў, што следства па факту смерці яе сына не такое простае, як ёй тлумачылі. Я ўбачыў шмат супярэчнасцяў.

***— І што гэта за супярэчнасці?***

— Паглядзіце самі, чалавек памірае ў выцвярэзніку пры дзіўных абставінах. Хуткую дапамогу выклікаюць толькі праз паўтары гадзіны. Мяне гэта збянтэжыла. Як можа быць, што чалавек, па паказаннях сведкаў, да паловы сёмага вечара нармальна сябе адчуваў, а пасля ў яго — раптоўны правал у памяці. Экспертыза высвятляе, што ў яго арганізме столькі алкаголю, што тую гарэлку яму трэба было піць цэлы дзень, не закусваючы!..

У мяне ў мінулым ужо была крымінальная справа ў адносінах да супрацоўнікаў міліцыі, якія забілі чалавека на апорным пункце ў Мінску. Міліцыянеры спачатку ўсё адмаўлялі, але пасля судова-медыцынскай экспертызы я даказаў іх віну...

***— Вы дапамаглі напісаць скаргу ў генеральную пракуратуру...***

— Так. І генеральная пракуратура націснула на абласную пракуратуру. У выніку — справу аднавілі. І калі яе аднавілі, значыць у нашай скарзе ёсць такія акалічнасці, якія раней не былі вывучаны следствам.

***— На Вашу думку, што канкрэтна павінна вывучыць следства?***

— Трэба акрэсліць кола сведкаў, якія ў той дзень бачылі Алега Дэйку і маглі б падцвердзіць, што на ім не было цялесных пашкоджанняў (на целе памерлага яны былі выяўлены). Неабходна паўторна дапытаць супрацоўнікаў міліцыі, фельчара, начальніка аўтабазы. Трэба зноў правесці судова-медыцынскую экспертызу.

***— Вы былі ў следчага Яўгена Рэвуцкага, які вядзе справу?***

— Так. Я сказаў яму, што справу трэба расследаваць аб'ектыўна і ўсебакова. Бо ў любым выпадку ўся адказнасць будзе на следчым. Не на нейкім начальніку, а менавіта на следчым, які вядзе справу... Цяпер Рэвуцкі вырашае, ці дапусціць мяне ў якасці прадстаўніка Марыі Дэйка да матэрыялаў справы, ці не.

**— Як доўга можа цягнуцца расследаванне?**

— Па падобных нераскрытых фактах смерці расследаванне можа доўжыцца і год, і два, і болей...

**Запісаў Сяргей ЁРШ**

**НАВІНЫ**

## Снова рост

**После небольшого перерыва возобновился рост курса американского доллара на «черном» рынке наличной валюты в Минске.**

Во второй половине дня стоимость американской валюты достигла рекордных отметок — 350-355 тысяч рублей при покупке, 360-365 тысяч рублей при продаже. По мнению банковских экспертов, неблагоприятная для национальной валюты ситуация обусловлена несколькими факторами.

Во-первых, до Беларуси докатилась новая волна обострения обстановки на российском валютном рынке, где из-за переноса переговоров правительства с Международным валютным фондом и начала ракетно-бомбовых ударов по Югославии реальный курс доллара к российскому рублю за последние три дня увеличился более чем на 15 % (с 24 до 28 рублей за доллар).

Во-вторых, на валютный рынок «давят» очередные компенсации работникам бюджетной сферы, информация о выделении средств на ликвидацию последствий паводка и подписанный на днях декрет об усовершенствовании пенсионного обеспечения граждан, предусматривающий повышение пенсий, помимо их традиционной индексации, в связи с увеличением средней заработной платы.

В-третьих, курс «подгоняется» распространившимися слухами о резком — до 50% — повышении цен на ряд значимых товаров с 1 апреля.

В-четвертых, в последние дни отмечается увеличение курса доллара к безналичному рублю на внебиржевом рынке. Так, 26 марта он варьировался в пределах 405-420 тысяч рублей против 395-410 тысяч в начале недели — система более не ощущает дефицита белорусских рублей. Кроме того, операторы этого сегмента валютного рынка по-прежнему ожидают кредиты Национального банка агропромышленному комплексу на проведение весеннего сева.

Эксперты считают, что в ближайшие дни тенденция к ослаблению рубля не изменится.

Тем временем, в обменных пунктах коммерческих банков курс продажи доллара достиг в пятницу отметки 300 тысяч рублей. Максимальный курс покупки составил 295 тысяч рублей. Таким образом, разрыв между средними банковским и рыночным курсами превышает сейчас 20%.

**БелаПАН**

# ПЕРАПРАВА НА ВУЛІЦЫ АГІНСКАГА

Сёлетняя паводка літаральна адрэзала ад горада два дамы №2 і №4 на вуліцы Агінскага, дзе жыве дзевяць сямей. Шчара падтапіла амаль увесь участак вуліцы каля чыгуначнага маста. Жыхары гэтых дамоў пазванілі да гарадскога начальства, у прыватнасці, да Канстанціна Зубко, каб ратаваў. Камунальнікі прывезлі шэсць бярвенняў і змайстравалі масток. Па ім людзі ўжо маглі дабірацца да чыгункі, праз якую і траплялі дахаты...



— У нас тут дзевяць сямей жыве, — гаворыць Леанід Карач, адзін з жыхароў гэтых дамоў, — у асноўным, пенсіянеры, інваліды. Старому чалавеку цяжка падняцца па тых прыступках, а пасля спусціцца. Таму людзі напісалі ліст да Канстанціна Зубко, дзе просяць зрабіць нармальную дарогу на вуліцы Агінскага.

**Сяргей ЁРШ,**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

# ПАВОДКА НА СЛОНІМШЧЫНЕ

У народзе кажуць, што паводкі прыходзяць на радасць і на ўраджай. Але паверыць у гэта цяжка. Слонімскую паводку, вядома, не параўнаць з палескай, тым не менш сёлета вада дае знаць пра сабе і на Слонімшчыне. Значна павысіўся яе ўзровень у Шчары, Ісе, Грыўдзе, Валобрынцы, а таксама ў азёрах і сажалках.



Як сказаў карэспандэнту "ГС" начальнік гарадскога штаба грамадзянскай абароны Уладзімір Кукушкін, сітуацыя з паводкаю ў Слоніме кантралюецца і пакуль сур'ёзных праблем не выклікае. Больш за ўсё пацярпелі ад вады жыхары некалькіх дамоў з вуліцы Агінскага.

Што датычыць сельскай мясцовасці, дык тут сітуацыя з паводкаю больш складаная. Са слоў начальніка раённага штаба грамадзянскай абароны Уладзіміра Маменкі стала вядома, што вада ў Слонімскім раёне затапіла каля 50 падвалаў. Больш за ўсё пацярпелі жыхары вёскі Шылавічы і мясцовы спіртзавод. Павышэнне ўзроўню вады адбылося па той прычыне, што прарвала ў Шылавічах плаціну. Плаціны і дамбы размывала ў вёсках Дзераўная і Балты. Размыла дарогу паміж вёскамі Драпава і Мыслава, каля вёскі Хмяльніца...

Усюды, дзе паводка нанесла шкоду, працуюць работнікі дарожна-эксплуатацыйнага ўчастка.

**Сяргей ЧЫГРЫН,**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
.............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 31 сакавіка 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7.200 экз.
Заказ № 930
© «Газета Слонімская»
Спасылка на «ГС» абавязковая
Ⓚ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

НАВІНЫ

# ШАНУЙ ПРАЦОЎНЫ КОДЭКС

**У мінулым годзе 108 грамадзян звярнуліся ў Слонімскую інспекцыю працы, якая выявіла 625 парушэнняў норм Кодэкса законаў аб працы.**

Шэсць незаконна звольненых работнікаў былі аднаўлены на ранейшых месцах працы. Грубыя парушэнні працоўнага заканадаўства былі выяўлены на заводзе сухога і абястлушчанага малака, фабрыцы "Тэстыльшчык", птушкафабрыцы і інш. За вымушаны прагул людзям было выплачана каля пяці мільёнаў рублёў і вернута 230 млн.руб. незаконна спагананых грошай. Было адменена 130 незаконных загадаў кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў. На 19 кіраўнікоў накладзены грашовыя штрафы ў суме 23,5 млн.руб. і пяць начальнікаў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, 9 чалавек, якія займаюць адказныя пасады, прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці.

Найбольшая колькасць парушэнняў працоўнага заканадаўства выяўлена на прадпрыемствах і арганізацыях мінсельгасхарчу.

Напрыклад, у калгасе імя Суворава Слонімскага раёна каля 30 работнікаў бухгалтэрыі і планаваэканамічнага аддзела былі незаконна пазбаўлены прэміяльных даплат на суму 26,5 млн.руб.

Грубае парушэнне працоўнага заканадаўства было дапушчана на фабрыцы "Тэкстыльшчык", у выніку якога па скарачэнню штататаў была звольнена ўдава, якая выхоўвае двух дзяцей ва ўзросце да 14 гадоў. Пасля прадпісання інспекцыі па працы жанчына адноўлена на рабоце, і ёй выплачана кампенсацыя за вымушаны прагул.

**Валянцін ЧУРЫЛА**




**Надыходзіць час сяўбы. І хоць рэспубліка ў нас не бананавая, але большасць яе жыхароў ужо зараз пачынае клапаціцца пра тое, каб было што есці зімой. Таму людзі купляюць насенне агуркоў, памідораў, капусты, буракоў і іншай агародніны. Як кажуць, што пасееш, тое і пажнеш...**

## Пазвані ў МУС

**Днямі пры міністэрстве ўнутраных спраў пачаў працаваць тэлефон даверу, па якім кожны грамадзянін можа пазваніць і паскардзіцца на любога міліцыянера.**

Тэлефон даверу 8-017-229-72-22 (па працоўных днях з 10 да 18 гадзін).

## Радзюкевіч — намеснік міністра

**Нядаўна палкоўніка Юрыя Радзюкевіча, былога начальніка слонімскай міліцыі, прэзідэнт назначыў намеснікам міністра ўнутраных спраў.**

Да гэтага ён быў начальнікам упраўлення ўнутраных спраў РБ на транспарце.

**Н.Ф.**

## В командировки лучше не ездить

**Национальный банк Беларуси направил банкам письмо Государственного налогового комитета (ГНК) «О расходах, связанных с разъездами предпринимателей без образования юридического лица».**

Согласно разъяснениям, содержащимся в письме ГНК, разъезды предпринимателя, осуществляющего свою деятельность без образования юридического лица, не являются служебной командировкой. Вместе с тем, в затраты предпринимателя по согласованию с налоговым органом включаются, как «другие специфические расходы», расходы по найму жилого помещения в размере оплаченных счетов и других документов, подтверждающих размер фактически понесенных расходов, а также расходы по проезду к месту назначения и обратно в размере стоимости проездных документов.

Как отмечается в письме, не связанные с осуществлением предпринимательской деятельности расходы не исключаются из облагаемого дохода и производятся за счет дохода, остающегося в распоряжении после уплаты налогов и других обязательных платежей в бюджет и внебюджетные фонды.

**БелаПАН**

ЗДАРЭННІ

## Адпачыла...

**Пажылая мінчанка Н. прыехала ў санаторый "Радон" паправіць здароўе, але адпачынак быў азмрочаны непрыемным здарэннем.**

Невядомыя залезлі да яе ў пакой і ўкралі тры мільёны рублёў.

## Злавілі

**За адзін вечар грамадзянін А. абакраў у Дзятлаўскім раёне чатыры легкавыя аўтамашыны.**

Ён сцягнуў з машын магнітолы, радыёпрыёмнікі, люстэркі. Словам, усё, што можна было адарваць і панесці. Рабуючы адну з машын, злодзей нечакана націснуў на гукавы сігнал. Гаспадар машыны выбег з дому і затрымаў злодзея. Ім аказаўся непаўналетні.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Баранавіцкія ўгоншчыкі затрыманы

Слонімская міліцыя затрымала траіх жыхароў Баранавіч, якія з Брэсцкай вуліцы ўгналі аўтамашыну "Аўдзі-80".

## Забіла маці

**24-гадовая жыхарка вёскі Байкі Слонімскага раёна Т. па-садысцку абышлася са сваёй роднай маці.**

Падчас сямейнай сваркі яна моцна збіла 51-гадовую жанчыну, якая ад атрыманых калецтваў памерла.

## Згарэў гараж разам з машынай

**На мінулым тыдні ад замыкання электраправодкі згарэў гараж і аўтамабіль "Масквіч".**

Усё гэта належала жыхару вёскі Асабнякі Слонімскага раёна Івану Марозу.

## Спаліла ўласны склеп

**Днямі жыхарка вёскі Чамяры Ларыса Міско падпаліла на ўласным падворку сухую траву.**

Пакуль яна займалася гаспадарчымі справамі, агонь перакінуўся на склеп.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

СПОРТ

## Хакейныя баталіі

**У Гродне прайшлі абласныя спаборніцтвы "Залатая шайба".**

Упершыню на гэтым турніры стартавала дзіцячая хакейная каманда са Слоніма, якая створана нядаўна (трэнеры — Рыгор Чарнышоў і Валерый Абзалімаў). Слонімцы занялі пятае месца сярод васьмі каманд удзельнікаў.

А вось каманда Азяркоўскай сярэдняй школы Мастоўскага раёна заняла трэцяе месца (трэнер — Іван Пась, начальнік каманды — Ігар Дравіца).

## Три победы "Коммунальника"

**В Гродно проходит открытый Кубок области ("кубок губернатора") по футболу, на котором успешно выступает слонимский "Коммунальник".**

Слонимчане выиграли у "Сморгони" — 4:1, "Нёмана-Белкарда" — 1:0, гродненского СХИ — 3:2. В группе "А", где играет "Коммунальник", нашим футболистам осталось встретиться со "Свислочь-Кровлей" из Осипович.

## Першынства мікраraёна

**У Слоніме прайшло адкрытае першынства мікрараёна "Энка" па міні-футболу.**

За перамогу змагалася 11 каманд вучняў 5-6 класаў восьмай і дзевятай слонімскіх школ. У выніку, перамагла "Марыя", якая ў фінальнай гульні выйграла па пенальці ў "Спартака" — 3:0 (асноўны час — 2:2). Лепшыя ігракі атрымалі ад арганізатараў першынства — футбольнага клуба "Марыя" — каштоўныя прызы і салодкія падарункі.

ФК "Марыя" плануе да канца траўня правесці падобныя турніры ва ўсіх буйных мікрараёнах Слоніма, з мэтай — выявіць новыя таленты.

**Алег ТАЧОНЫ**

## Слонімцы трэція

**У Гродне на першынстве вобласці па шашках сярод дзяцей і падлеткаў трэцяе месца заняла слонімская каманда, якая прадстаўляла ЖЭС-2.**

У яе складзе гулялі Сяргей Чэкан, Юрый Курцэвіч, Сяргей Лагоша і Ганна Барысік.

**Аляксандр АНІСЬКА**

## Перамогі на рынгу

**У Гродне прайшло першынства вобласці па боксу, у якім прынялі ўдзел і спартсмены Слоніма.**

У групе юнакоў-юніёраў (1982-83 г.н.) пераможцамі сталі: Дзмітрый Трус (у вагавай катэгорыі 51 кг, СШ №8), Дзмітрый Леўчук (57 кг, СШ №10), Аляксей Рахунок (69 кг, СШ №8), Яўген Камінскі (73 кг, СШ №3). Другое месца ў вагавай катэгорыі 73 кг заняў Максім Мартынюк (СПТВ-189).

**Уладзімір ПІРОЖНІК**

ПОЧТА

## А задумывались ли люди: почему так случилось?

Недавно "ГС" (№10) писала про Слонимское ремесленное училище. В статье говорилось и о том, как учащиеся в начале 50-х годов напали на здание милиции. А задумывались ли люди: почему так случилось?

Да, дрались тогда ребята часто: городские с ремесленниками, Лабозовка с "вокзалом". Обычно за городских заступались родители, которые выручали своих детей, а за ремесленников не было кому постоять. Вот их и обвиняли во всех грехах. В городе, если что-нибудь случится, обязательно потом считали, что это дело рук ремесленников. Поэтому многие люди их обходили стороной, их боялись и презирали. А на самом деле они были намного лучше теперешней молодёжи. Это могут подтвердить девушки тех лет. Те мальчики почти все были воспитанниками детских домов, они дети войны. В детдомах они пережили холод и голод, им никто не сочувствовал, у них были ранимые души. Как случилось, что ребята тогда пошли штурмовать отдел милиции, мне сейчас трудно объяснить, но я уверена в том, что на это их подтолкнули сами взрослые своим к ним отношением.

Не знала я в том далёком 41-ом году, что война и меня оставит сиротой. Отец служил на белорусско-польской границе в городе Ломжа, погиб на второй день войны, а раненую мать потеряла во время бомбёжки. На третий или четвёртый день войны я попала в Слонимский детдом, в 1943 году угнали в Германию, где пробыла до 1945 года. Снова вернулась в Слоним, училась в БНСШ №3, которую закончила в 1951 году.

В училище по тем временам был очень хороший клуб, с прекрасным паркетным полом. До сих пор вспоминаю танцы в том клубе. Мы, девушки, старались туда пройти так, чтобы нас не видели местные жители, иначе потом разговоров не оберёшься. В училище на танцы я ходила где-то полтора года. И не помню, чтобы там были драки. Ребята были вежливые, девушки не курили, пьяных не было. Наверное в Слониме ещё живы женщины, которые помнят те прекрасные танцевальные вечера в ремесленном клубе.

**Римма САМАРСКАЯ (ВАЩИЛИНА), 65 лет**

**P.S.** Риммой меня звали родители, Ритой — в Германии, а Раей я стала уже здесь, в Слониме.

## Нужна ли нам прописка?

Республика Беларусь — единственная страна Европы, где сохранен институт прописки. Сколько умных, грамотных специалистов не смогли трудоустроиться из-за прописки. В бывшем Советском Союзе четыре столицы республик имели лимит на прописку: Киев, Москва, Минск, Ленинград. И сейчас, на пороге третьего тысячелетия, в Беларуси сохранен институт прописки. В Минске, например, если вы прописываетесь, у вас потребуют дополнительно показать документ о прохождении флюорографии. Автору этих строк отказала в приеме на работу инспектор отдела кадров ОАО "Слониммебель" Лариса Адамович. Причина банальная — должен быть прописан в Слониме.

В феврале в Национальном собрании прошла пресс-конференция с участием председателя Конституционного суда Григория Василевича.

Он сказал, что "по-прежнему остается открытым и вопрос о прописке. Институт прописки требует пересмотра — необходима его замена на регистрацию граждан по месту жительства. Кстати, положение о прописке было признано незаконным еще в период существования СССР. Не успели его отменить и депутаты Верховного Совета Республики Беларусь 12 созыва". По моему мнению существующая практика приема на работу граждан при условии их обязательной прописки в районе соответствующего предприятия или учреждения незаконна. В соответствии с Конституцией в данном случае во внимание должны приниматься только деловые качества кандидата на рабочее место.

**Николай ЕМЕЛЬЯНЧИК, Зельва**

## Выдвигаем одного, а голосуем за другого?

Согласно ст.35. Закона о выборах выдвигать кандидатов в городские Советы могут трудовые коллективы, расположенные на территории соответствующего Совета депутатов.

Считаю, что подобная система выдвижения кандидатов в депутаты — порочна. Ведь ни о каком свободном волеизъявлении и речи быть не может. Рабочие и служащие зависимы от администрации, а те, в свою очередь, от местных властей. В итоге получается, как в анекдоте про один арбуз, который продавец предлагал выбирать.

Более того, при таком порядке выдвижения чаще всего бывает, что из сотни избирателей только считанные единицы живут в том округе, по которому выдвигают кандидата. Получается, что, кроме всего прочего, трудовой коллектив фактически не несет никакой ответственности за своего выдвиженца. Что подкрепляется и юридически: согласно ст.42 в избирательном бюллетене не указывается, кем выдвинут кандидат в депутаты.

Вот и получается, что избирателям предлагают выбирать в депутаты человека, выдвинутого неизвестно какими людьми, при том живущим в подавляющем большинстве в иных избирательных округах.

**Анатолий ЛЕСНИЧИЙ, пенсионер Вооруженных Сил**

# Женские историИ

Сложно бывает понять превратности судьбы. Мы часто говорим: "Их свела судьба.", "Не судьба им быть вместе". Действительно, невозможно предугадать, что уготовила тебе эта самая СУДЬБА, и вообще, готовит она или мы сами являемся вершителями своих судеб? И если мужчины пытаются казаться безразличными к подаркам судьбы, женщины гадают всевозможными способами, стремятся заглянуть в будущее и пробуют обмануть свою судьбу или смириться с ней, если она устраивает. Мы с удовольствием смотрим телепередачи "Женские истории", "Моя семья". Судьбы незнакомых нам людей привораживают нас к экрану телевизора. Смотришь его и видишь всю свою жизнь... Судьба не сделала нас "звездами", но стала необычной, увлекательной, о которой в пору писать сценарий мелодрамы, комедии, трагедии... Вот и пишите! Пишите! Не думаете, что у вас нет таланта, не хватает умения! Пробуйте! Когда хочется рассказать всему белому свету о любви, о преданности, о верности, о предательстве, об отчаянии, о наших ЖЕНСКИХ СУДЬБАХ — у вас появилась такая возможность.

Если необходимо, чтобы Вас услышал тот единственный, чья незаслуженная обида не дает покоя ни днем, ни ночью – используйте посланную судьбой бессонницу - пишите! Только не забудьте указать имя.

А может ваш рассказ будет загадочным, тогда придумайте себе таинственный псевдоним.

А пока вы обдумываете это предложение, мы Вам расскажем о судьбе одной удивительной женщины.

## ГАЛИНА



Ей всё удавалось легко. Школа – с золотой медалью, университет – с красным дипломом, карьера в НИИ – ведущий специалист и руководитель группы за два года. Даже называли её не как других, просто Галина, кто с уважением, кто с завистью. Только сама себе она не завидовала и друзьям говорила: "Я отдельна, как моя кооперативная квартира. Мужчины меня боятся. Кому нужна умная женщина? Никому!"

Усталость от одиночества переходила в обиду на судьбу, а однажды превратилась в желание обмануть и нарушить тишину своей квартиры криком новорожденного. Ее мысли принялись за дело – всех окружающих мужчин оценивали, как потенциальных кандидатов на тайное отцовство. Достойный не находился по различным причинам...

Вмешался его величество случай, отправив на вечерний киносеанс Галину одну и ЕГО одного, только места на их билетах почему-то были рядом. В полутемном зале кинотеатра Галина сразу поняла:"ОН". Происходящее на экране уже не могло отвлечь её мысли от построения плана дальнейших действий. Надеяться на чудо было нельзя. Зрители стали расходиться, а плана не было. Надеясь только на себя, Галина догнала ЕГО уже на улице. Заплетаясь в словах, мыслях, планах стала просить проводить ее домой: "Тут не далеко... а в переулке темно... ну до подъезда всего ..." ОН молчал, странно смотрел, но согласился. Проводил до двери и... сам напросился в гости на чай. Пока чайник закипал, познакомились: ОН оказался Анатолием (красивое будет отчество). Дальше все было, как в кино. Галина залпом объявила о своем желании стать матерью и привела все свои доводы. Доводы оказались вескими – три килограмма девятьсот грамм, рост 52 см. Ребенка назвали Лёшечкой.

Шли годы, сын рос. Однажды она выходила из детского сада – сумка в одной руке, сын в другой – и столкнулась с Анатолием. Слова были не нужны, они узнали друг друга и молча смотрели: отец на сына, мать – на отца. Разговор был коротким. Анатолий женился и приводил в этот детский сад свою дочь... Но вскоре от него ушла жена к другому, Галина приняла Анатолия.

Я встретила Галину полгода назад. Судьба свела нас за столиком уличного кафе... Годы не изменили ее внутренней силы . Счастье помогло остаться красивой. Лёшечка закончил университет, женился. Живет отдельно. Анатолий удачно занимается бизнесом. С ними живет его дочь от первого брака Леночка и её сестра Людочка, чей отец после смерти матери (бывшей жены Анатолия), исчез, оставив на произвол судьбы двух дочерей. Но Галина по-прежнему спорит с судьбой, она старается быть матерью для дочери любимого человека и девочки, которую судьба пыталась оставить сиротой.

**Лариса ПЕТРОВА**

**Когда на уютной кухне собираются приятельницы за чашечкой чая, обсуждению подлежит все: мужчины, дети, подруги, наряды...**

**Я приглашаю всех желающих обсудить вопрос, невольно заданный Галиной: "Нужна ли мужчинам умная женщина?"**

**Ждем. Пишите.**

## Я вясну пазнаю па жаночых нагах...



* * *

Я вясну пазнаю па жаночых нагах,
Па ўсмешках дзяўчат і вясёлых вачах...
Толькі што мне яны, у мяне ты — адна:
Стройным ножкам тваім
хай зайздросціць вясна.
Хай мужчыны глядзяць,
прыхмялеўшы ад піва,
Што з табою іду,
што з табой я шчаслівы.
А пасля, калі ноч зноў
настане глыбокая,
Пасля ласкі з табой будзе
стома салодкая,
Будзе ў доме вясна і зімою, і летам...
Я цябе не аддам анікому за гэта.

**Сяргей ЧЫГРЫН,**

**Мікалай СУПРУН (фота)**



**НАВІНЫ**

### Усё для жанчын

**Каля 40 новых відаў верхняга жаночага адзення вясенняга асартыменту распрацавалі мадэльеры Слонімскага быткамбіната.**

З гэтымі навінкамі слонімскія модніцы мелі магчымасць пазнаёміцца на мінулым тыдні.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**Мікалай СУПРУН (фота)**

## ЖЫВЕ МАСТАЧКА Ў АЛЬБЯРЦІНЕ

На слонімскай зямлі жыве нямала таленавітых людзей, якія валодаюць сакрэтамі народных рамёстваў. Вось такіх, як мастачка-керамік Надзея Салейка, чые творы я аднойчы ўбачыў на Першамайскай вуліцы каля магазіна "Адзенне". Тое, што тут было прадстаўлена на продаж, цяжка было пералічыць. Гэта патрэбна бачыць. А менавіта: скульптурныя кампазіцыі, сцэны вясковага жыцця, казачныя вобразы – і ўсё гэта з гліны.

Надзея Салейка ў 1982 годзе закончыла Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава. Восем гадоў яна працавала галоўным мастаком на фабрыцы мастацкіх вырабаў. У Слоніме керамікай з гліны ўсур'ёз ніхто не займаўся, бо няпростая гэта справа. І ўсё ж, наведаўшы ў Мінску адну з выстаў керамікі, яна як зачараваная стаяла і глядзела на вытанчаныя лініі адной са скульптурных кампазіцый. Менавіта тады і запала ў душу мастачцы жаданне стварыць нешта падобнае, але сваё, блізкае і роднае.

Надзея з усмешкай успамінае сваю першую спробу стаць мастаком, калі яна паслала некалькі сваіх дзіцячых малюнкаў у часопіс "Веселые картинки". Колькі было слёз, калі атрымала адказ рэдакцыі з катэгарычным вывадам, што ў яе няма мастацкіх задаткаў.

Не маючы ні тэхналогіі вырабу керамікі з гліны, ні адпаведнага абсталявання, Надзея Салейка вырашыла паспрабаваць свае здольнасці на простых скульптурках. Колькі радасці было ў дзяўчыны, калі нешта пачало атрымлівацца. Яна распрацавала ўласную тэхналогію абпальвання вырабаў з гліны. Па словах мастачкі, яна заключаецца ў тым, што гама колераў керамічных вырабаў дасягаецца праз рознасць тэмператур апалу.

Па словах Надзеі Салейкі, усе яе сюжэты выходзяць з самага сэрца. Неаднаразова яна спрабавала паказаць свае работы за межамі слонімскай зямлі, атрымлівала прапановы прыняць удзел у рэспубліканскіх выставах і нават у Германіі. Але яна не імкнецца да вялікай славы і знакамітасці. Ёй дастаткова таго, што яе работы падабаюцца слонімцам, якія з'яўляюцца галоўнымі яе дарадцамі і крытыкамі. А яшчэ Надзея лічыць сябе вельмі шчаслівай ад таго, што яе дванаццацігадовы сын Петрык таксама цікавіцца керамікай і ў яго ўжо шмат чаго атрымліваецца.

**Валянцін ЧУРЫЛА, фота аўтара**



*Мастачка Надзея САЛЕЙКА*

**НАВІНЫ**

### "Актыўнасць — шлях да даўгалецця"

**Пад такім дэвізам раённы камітэт таварыства Чырвонага Крыжа з 1 красавіка распачне цыкл мерапрыемстваў, прысвечаных сусветнаму Дню здароўя.**

Прадугледжана правядзенне кансультацый тэрапеўтаў, урокаў здароўя ў школах горада і сустрэчы з працоўнымі калектывамі прадпрыемстваў і ўстаноў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# ВЯСНА

Сонца... Яно іскрыла, асляпляла. Гэтае цудоўнае залатое свято лілося адусюль: і з маленькіх лужынак, якія падхоплівалі яго, драбілі і пераварвалі ў тысячы зіханціц, і з аконных шыбін, якія рабілі яго трапяткім, лёгкім, нібы найтанчэйшае сукно. Але больш за ўсё гэтага залатога свята было ў паветры. Тут, на блакітным прасторы, нібы разлілася залатая фарба, і не было ёй ні пачатку, ні канца...

Усё вакол зацiхла, прытаiлася. Толькі лёгкі ветрык церабіў вільготныя, бліскучыя галінкі дрэў, ды над масляніста-чорнай раллёй, як рэшткі туману, цягнулася ўверх пара.

Можа гэта сон, ці салодкі дурман круціць галаву? Не! Кальнула ў сэрца... Яна!

Сноп валасоў за плячыма раскінуўся безліччу завіткоў, а вочы, як сіняя бездань, вабілі, клікалі... І вусны, колеру спелай вішні, і шчокі, быццам ружовыя яблыкі, былі так хвалююча блізка — толькі працягні далонь і адчуеш, які тонкі і гібкі, нібы трыснёг на ветры, дзявочы стан. Яна схіляецца ўсё бліжэй, бліжэй...

Гарачыя вусны, гарачыя рукі і яна, такая трапятная, пяшчотная...

Але дзе яна, жаданая, каханая? Ды вось жа, побач! Гэта — вясна!

**Г.СТРАЛКОЎСКАЯ**

## У ДЗЯТЛАВА ПРЫЙШЛА ВЯСНА



Фота Мікалая СУПРУНА

## Спявалі з аркестрам Міхаіла Фінберга

**Другі Беларускі фестываль дзіцячай эстраднай песні "Спяваем з аркестрам" адбыўся ў Мінску ў канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі. Арганізатарам фестывалю стаў народны артыст Беларусі Міхаіл Фінберг.**

У фестывалі прынялі ўдзел юныя спевакі з усёй рэспублікі. Узрост выканаўцаў быў ад шасці да трынаццаці гадоў.

Лаўрэатамі фестывалю сталі юныя спевакі з восьмай сярэдняй школы г.Слоніма Кірыл Відусаў і Юля Крот. Як сказала іх мастацкі кіраўнік Лілія Маруцік, выступленне нашых дзяцей вельмі спадабалася маэстра Фінбергу. Ад свайго імя ён перадаў ліст падзякі загадчыку гарадскога аддзела адукацыі Аркадзю Бумагіну за ўвагу і стварэнне ўмоў для росту будучых артыстаў беларускай эстрады.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## НАРОДНАЯ МЕДИЦИНА

# ДЕЛА СЕРДЕЧНЫЕ

**В конце XX века сердечно-сосудистые заболевания, расстройства нервной системы по количеству страдающих ими людей уверенно вышли в лидеры среди прочих недугов человечества. Развитие мировой медицины и достижения современной фармакологии позволяют докторам успешно лечить большинство таких болезней. А как лечились от них наши деды и прадеды в те времена, когда не было еще ни мощных медицинских кардиологических центров, ни клиник неврозов, ни знаменитых фармацевтических фирм?**

● При сердечно-сосудистых заболеваниях (пороки, неврозы сердца), особенно если им способствуют увеличение печени и отеки ног, рекомендуется травяная настойка из горицвета, пустырника, валерианового корня, зверобоя. По десертной ложке каждого из этих компонентов высыпаем в кастрюльку и, залив литром кипятка, даем настояться. Настойку принимать по полстакана 4-5 раз в день, добавляя по чайной ложке меда.

● При гипертонии (повышенном артериальном давлении) помогает настойка из пустырника, сушеницы, зверобоя, цветков боярышника, мочегонного аптечного чая. Смесь из этих трав (по десертной ложке) заливаем литром кипятка. Принимать по 1 стакану 4 раза в день, предварительно подогрев до теплого состояния и добавив чайную ложку меда.

● Для повышения кровяного давления (при гипотонии) рекомендуется есть виноград. Хорошо регулярно принимать настойки женьшеня, лимонника, которые сегодня, как правило, есть в любом аптечном киоске.

● А вот старинное народное средство от сердечной одышки. Надо размолоть фунт (374 г) свежего чеснока и выложить массу в стеклянную банку с широким горлом. Выжать туда же сок из 24 лимонов и перемешать. Поставить в холодильник на 20 дней. Принимать состав (предварительно взбалтывая его в банке) по десертной ложке на стакан теплой воды три раза в день.

● Еще один старый рецепт для укрепления сердечной деятельности. Вам понадобятся: фунт сливочного масла, фунт нутряного свиного сала, по одному фунту меда и сахара, четверть фунта какао, восемь яичных желтков, три стакана сливок. Взбить вместе желтки, сливки и какао; растопить вместе масло и сало, и влить, остудив, во взбитую смесь. Полученную массу трижды доводить до кипения — пока она загустеет, став похожей на тесто для блинчиков. Принимать три раза в день по столовой ложке.

● В состоянии длительного перевозбуждения нервной системы, когда мучает бессонница, немотивированные страхи, при ночном недержании мочи у детей и истериках хорошо помогает настойка из успокоительного аптечного чая, цветков боярышника, пустырника, мяты — по десертной ложке каждого растения добавить в 1 литр кипятка, настаивать не менее двух часов, процедить. Принимать по стакану 4 раза в день, добавляя чайную ложку меда.

● При судорогах различного происхождения (при нервных заболеваниях, эпилепсии, ревматизме), при сердечно-сосудистых спазмах помогает настой из пустырника, мяты, крапивы, шалфея, мочегонного аптечного чая: по десертной ложке каждого залить тремя стаканами кипятка. Принимать в теплом виде с чайной ложкой меда по стакану три раза в день.

● Та же настойка, но с добавленным компонентом — чайная ложка сушеницы или арники — помогает снять напряжение при психических и нервных заболеваниях.

● Все травы и растения для настоек используются в сушеном и измельченном виде. Летом их можно нарвать и высушить самим или, если вы не имеете возможности сделать такие домашние запасы, купите их в аптеке.

# МАРЫЛІНА ШЧАСЦЕ

*Апавяданне*

Марыля памірала. Яна адчувала гэта і была падрыхтавана да смерці. Таму страху не было. Аджыла сваё. Амаль зусім сляпымі вачыма яна абвяла сцены вы- дзеленага ёй пакойчыка і нібы правалілася ў другое вымярэнне, у другі свет. Яна вярнулася ў той час, дзе маладая і шпаркая прыгажуня, праўда, яшчэ амаль дзіця па ўзросту, сустрэлася са сваім шчасцем.

...Неяк раненька, калі Марыля яшчэ паліла ў печы і ўходжвалася па гаспадарцы (маці вельмі часта хварэла, а яна была самая старэйшая з дзяцей), у хату зайшоў вядомы ва ўсёй акрузе кравец Іван, чалавек сталы і сур'ёзны, і пры гэтым яшчэ халасцяк.

— Што ж гэта, Юзік, ты гэткае дзіця каля печы ставіш? Яна ж і з вільцамі не ўправіцца, бо з-за прыпека чугунку не бачыць, — не то ўсур'ёз, не то пажартаваў кравец.

— Ды што зробіш, — адказаў бацька, — мая Еўка хворая, дзеці ўсе малыя, вось і прыходзіцца ўсё Марылі рабіць. Малайчына яна ў мяне...

Доўга яшчэ прасядзеў Іван у хаце, а потым, адыходзячы, сказаў бацьку:

— Чакай, Ёзік, сватоў. Сватаць буду тваю Марыльку.

— Дык яна ж яшчэ дзіця, — хацеў было запярэчыць бацька, але кравец нічога не адказаў і пайшоў.

У хуткім часе і вяселле згулялі...

Марыля, нібы ўсплыўшы на паверхню сваіх успамінаў, цяжка ўздыхнула. Божа мой, калі ж тое ўсё было і як хутка праляцела, пакінуўшы адны ўспаміны пра тое кароткае шчасце і пра смак вады з чыстай празрыстай крыніцы ля самай хаты. Божухна, як хочацца піць. Хоць з крана вадзіцы папіць. Але марна, нікому няма да яе справы. Вочы Марылі зноў закрываюцца. І зноў яна вяртаецца ў сваю маладосць.

...Жылі з Іванам вельмі дружна. З часам прыйшло каханне. Адзін за адным нарадзіла мужу трох сыноў.

— Гляньце на Марылю, не ходзіць, а нібы лётае, — па-добраму зайздросцілі сяброўкі.

Ды так і было на самай справе. Яна была шчаслівая. Але надоўга цягнулася шчасце. Грымнула вайна. Івана забралі на фронт. І калі яго камісавалі па хваробе, Іван быў ужо не жылец на гэтым свеце. Хутка ён памёр. Быццам абарвалася жыццё і самой Марылі. Але трэба было жыць, падымаць на ногі сыноў, даглядаць злёгшую пасля смерці сына свякроў, якая засталася жыць з нявесткай. І Марыля вырашыла, што будзе жыць не дзеля сябе, а дзеля сыноў і жанчыны, якая падаравала ёй такога мужа. Жылі яны на хутары, далекавата ад вёскі. Ні электрычнасці, ні радыё. Зімой ваўкі амаль у вокны заглядалі, але Марыля ні за што не хацела пераязджаць у вёску, кідаць хату, у якой яна спазнала хоць кароткае, але такое вялікае шчасце.

Марыля бегала на працу ў калгас, збірала капейку да капейкі, каб толькі было чым дапамагчы сынам.

Потым памерла свякроў, год за годам паступілі ў розныя інстытуты ўсе сыны. Чым магла, дапамагала ім. Прапаноўвалі, і не адзін раз, выйсці замуж. Але яна цвёрда стаяла на сваім: "Я патрэбна сынам". І яна была патрэбнай, як тая ціхая гавань, дзе на жыццёвым моры можна было знайсці ў любы час дапамогу і падтрымку.

А потым сыны пажаніліся і засталіся жыць у вялікіх гарадах пры немалых пасадах. А на Марылю, як з мяха, сыпанулі хваробы. Яна ўжо не паехала ў вёску, бліжэй да радні, якая хоць чым дапамагала ёй па гаспадарцы. Але Марылі трэба было лячыцца.

І вось адзін з сыноў забраў яе да сябе ў вялікую кватэру, дзе знайшоўся для Марылі пакойчык. Спачатку, пакуль былі малыя ўнукі, яна была патрэбная. Марыля аддавала дзецям усю сваю душу, сваю любоў. Але дзеці хутка растуць. Выраслі і яе ўнукі, як вырас і букет хвароб. Унукі раз'ехаліся, і яна зноў стала непатрэбнай. Нікому. Ёй адвялі пакойчык, і ў гэтым пакойчыку яна, амаль сляпая, дажывала свае дні, а зараз гадзіны. Ёй могуць прынесці што-небудзь паесці, а могуць і забыць. І калі ёй вельмі захочацца есці, яна навобмацак ідзе на кухню і спрабуе нешта там згатаваць. Але што можа зрабіць сляпы стары чалавек. І тады сварыцца нявестка, злуе сын.

— Родненькія, ці ж я вінаватая, што вішу ў вас на шыі, што Бог не забірае мяне.

І, ціхенька выціраючы сляпыя вочы, шоргае назад у свой пакойчык, у сваю турму без кратаў.

...Марыля зноў расплюшчыла вочы.

— Вось і ўсё. Нарэшце, дачакалася. Якое шчасце! Я вызвалю родных ад сябе. Яны не будуць больш злавацца і сварыцца, можа цяпер будзе спакой і шчасце ў гэтай хаце...

Халодным зіхам праплыла ля яе шклянка вады, якой яна так і не дачакалася. Марыля заплюшчыла вочы. Цяпер ужо назаўсёды.

**Святлана БОЛЦІК**

## АСЯРОДАК КУЛЬТУРЫ

# ДОБРЫЯ ФЕІ З КНІЖНАГА КАРАЛЕЎСТВА




*Ларыса Шыцько і Алена Вайтушка*

Гэтыя мілыя прывабныя жанчыны знаёмы кожнаму чалавеку, хто наведваецца ў Дзятлаўскую раённую бібліятэку.

Ларыса Шыцько — загадчыца аддзела абслугоўвання. Працуе тут пасля заканчэння Мінскага ўніверсітэта культуры. Дарэчы, у Ларысы амаль уся сям'я мае адносіны да работы ў галіне культуры. Яе муж Васіль Шыцько — дырэктар РДК, мама Ніна Еўдакімаўна шмат гадоў была інспектарам раённага аддзела культуры.

Каля трыццаці гадоў працуе ў бібліятэцы Алена Вайтушка. Яна — галоўны бібліятэкар. Побач з Аленай ужо не першы год працуе і яе дачка Оля, якая закончыла Баранавіцкі тэхналагічны тэхнікум, але работа па спецыяльнасці не спадабалася, і дзяўчына паступіла на завочнае аддзяленне Мінскага ўніверсітэта культуры, а працаваць прыйшла сюды.

Усяго ў Дзятлаўскай раённай бібліятэцы цяпер працуе сем чалавек. Дзяўчаты і жанчыны, як на падбор: любяць сваю справу, з увагай ставяцца да чытачоў. Нездарма людзі прыходзяць сюды не толькі па кнігі і газеты, але і падзяліцца сваімі думкамі, перажываннямі. І заўсёды знаходзяць тут спагаду і разуменне.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ, фота Мікалая СУПРУНА**

Газета Слонімская
1 — 7 красавіка 1999г., № 14 (95)

НАШ КОНКУРС

# "ШТО Б ГЭТА ЗНАЧЫЛА?"

ад "Kodak-ЛЮКС"

**Паважаныя сябры!**

Сёння мы публікуем вашы апошнія подпісы да здымка, які быў надрукаваны ў №12 "ГС".

У наступным нумары нашай газеты журы конкурсу назаве пераможцаў.



***
Чем жить с таким
бензином,
Так лучше в речке сгинуть.
***Виктор Новоселов***

***
"Москвич" решил
подстраховаться —
Возле ОСВОДа влез
купаться.

***
Стоял здесь летом
катерок,
Зимой паркую
"Москвичок".
***Елена Милькевич***

***
Он "под мухой",
видно, ехал,
Потому в реку заехал.
***Анна Глечикова***

***
Чтоб рекорды все побить,
Решил я Щару переплыть.
Вернусь обратно или нет —
У речки спросите ответ.

***
Чем без прав за руль
садиться,
Лучше взять и утопиться.
***Татьяна Белько***

***
Даже на Щаре,
где скопился ил,
След свой оставил
автомобиль.
***Лилия Прудникова***

***
Превратить решил
Петрушка
В подлодку легковушку.
***Татьяна Лысуха***

***
Я ж казаў табе, Кузьміч,
Не плывучы твой
"Масквіч",
Дык і Шчара —
то ж не мора,
Вось паўлітра ты й
праспорыў!
***Святлана Казлова***

***
Где "Запорожец"
не пройдет,
Где иномарка
не промчится,
"Москвич" по Щаре
проплывет,
И ничего с ним
не случится.
***Анна Качалова***

***
Ехаў Ясь ля ракі,
Кася воду брала.
Паманіла пальцам Яся —
І "Масквіч" ў раку
забраўся.
***Таццяна Тарасік***

***
Думку думае машына —
Ні запчастак, ні бензіну.
Ездзіць болей не бяруся —
Лепш у рэчцы утаплюся.
***Святлана Болцік***

***
Тише едешь —
суше будешь.

***
Вода, вода, кругом вода,
И я один, вот в чем беда.
***Наталья Эгерд***

***
Мой "Москвич",
как вездеход,
Вверх по Щаре
он плывет.

***
Переправа, переправа,
Берег левый,
берег правый.
Я плыву на "Москвиче"
Вверх по
слонимской реке.
***Юрий Яговдик***

***
Ты слышал,
как вчера обманул
Милицию
выдумщик Ваня?
Чуть выпил, машину
слегка окунул,
Оправдался:
"Снимаю "Титаник".
***Лариса Козлова***

***
Вы такого не видали:
Наш "Москвич"
плывет по Щаре.

***
Только с праздника
очнулся,
Вот и в Щаре окунулся.
Подожду еще соседа —
Он рыбачит здесь
с обеда.
***Яна Харитонович***

***
Прыехаў з працы я
ў аўторак,
Загнаў машыну
на падворак.
А ранкам устаў —
няма нідзе:
"Масквіч" стаіць мой
у вадзе.
***Сяргей Якімчык***

***
Там, где пехота
не пройдет,
И бронепоезд
не промчится.
"Москвич" на пузе
проползет,
И ничего с ним
не случиться.
***Надежда Добриян***

***
Вы не будьте строги,
Люди, к мужику.
Изменил — дороге,
Полюбил — реку.
***Леонид Грушко***

***
Вот сознательный
водитель:
Сам приехал
в вытрезвитель.

***
Кто сказал,
что "Москвичу"
Наша Щара по плечу?
***Дмитрий Миронов***

***
Автозаплывом — по бездорожью и разгильдяйству!
***Никита Бороновский***



# КОЛЬКІ ТРЭБА ДЛЯ ДЗІЦЯЦІ?

З першых дзён з'яўлення на свет немаўляці патрэбна адзенне, каляска, дзіцячая ежа і шмат чаго іншага.

Тры тыдні назад увесь камплект для нованароджанага на рынку мне прапанавалі за 2 млн. рублёў. Каго не задавальняе такі "сервіс", можна пайсці ў слонімскі магазін "Вясёлка", дзе набор для немаўляці з дзевяці адзінак каштуе 1 мільён 80 тысяч рублёў.

Практычна ва ўсіх магазінах горада маюцца аддзелы з таварамі для дзяцей, дзе прапаноўваецца як айчынная, так і імпартная прадукцыя. Апошняя, зразумела, даражэйшая, а па якасці асабліва нічым не адрозніваецца ад нашай. Напрыклад, беларускія паўзункі ў магазінах каштуюць 162 тысячы рублёў, аналаг польскай вытворчасці ўдвая даражэй. Таму спынім свой выбар на таварах беларускіх фабрык. Пачнем з таго ж набору для нованароджанага, куды ўваходзіць 2 пялёнкі, 2 распашонкі, 2 чэпчыкі, 2 кашулькі і касынка. Але нават у першы час для нованароджанага неабходна мець мінімум па пяць пар распашонак з паўзункамі, 20 розных пялёнак і тры-чатыры шапачкі...

Дык вось, калі шапачкі і распашонкі можна набыць у магазіне "Вясёлка", то пялёнак нідзе днём з агнём не знойдзеш. Мне паведамілі, што знаходлівыя жанчыны купляюць іх дзесяткамі і потым з іх шыюць прасціны. Набор, які складаецца з трусікаў і маечкі для немаўляці, каштуе 204 тысячы рублёў, цёплая кашулька — 273 тысячы, а дзіцячы касцюмчык — 2 мільёны 470 тысяч рублёў.

Не абысціся і без коўдры з падушкай, якія можна набыць на рынку па цане ад 4 да 6 млн. рублёў. За соску-пустышку прыйдзецца заплаціць ад 70 да 120 тысяч рублёў. Нельга забываць і пра памперсы, цана якіх на рынку вагаецца ад 500 да 800 тысяч рублёў. Такі сродак гігіены дзіцяці, як ванначка, абыйдзецца ад 500 тысяч да 1 млн. рублёў.

На маё пытанне, што думаюць маладыя маці пра цэны, адказы былі амаль аднолькавыя — вельмі высокія.

— Прыкладна год назад, калі мы з мужам яшчэ толькі хацелі мець дзіця — сказала адна з іх, — цэны на дзіцячае адзенне і абутак былі ў некалькі разоў ніжэйшымі. Існуе такі павер, што раней тэрміну для немаўляці нічога купляць нельга. Вось і атрымліваецца, што, каб купіць дзіцяці самае неабходнае, трэба заплаціць каля 20 млн. рублёў, — з горыччу сказала жанчына.

Але на гэтым траты маладой сям'і не заканчваюцца, бо і без дзіцячай каляскі і ложка не абысціся. У слонімскіх магазінах такі транспартны сродак як каляска — вялікая рэдкасць. У магазін "Вясёлка" іх прывозілі апошні раз паўгода назад. На рынку самая простая каляска каштуе 100 даляраў.

Варта помніць, што, пачынаючы ўжо з месячнага ўзросту, дзіцяці патрэбны цацкі. Ні ў адным слонімскім магазіне я не знайшоў цацку, цана якой была б меншай за 200 тысяч рублёў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## АНЕКДОТЫ

☺ Сын спрашивает: — Папа, а сколько стоит свадьба?
Отец: — Я не знаю, сын. Я все еще расплачиваюсь за свою!

☺ — Ну, как чувствует себя ваша дочь?
— Лучше. Но ей придется пролежать с месяц в госпитале.
— А что случилось?
— Я ей купил новую машину.

☺ — А если в бою патроны кончатся, что делать?
— Стрелять дальше, чтобы ввести противника в заблуждение.

☺ Муж с женой едут в машине. Жена за рулем, едет на большой скорости.
— Дорогой, у меня отказали тормоза!
— Дорогая, постарайся врезаться во что-нибудь подешевле.

☺ Одессита после поездки в Париж друзья просят поделиться впечатлениями:
— Ну как там в Париже, рассказывай.
— Ну что вам сказать? Помните, у Жоры на кухне «Джоконда» висела?
— Помним, конечно.
— Так вот, теперь она в Лувре!

☺ — Я до сих пор не имел удовольствия познакомиться с вашей женой!- А почему вы решили, что это доставит вам удовольствие?

☺ — Как, по-твоему, кто умнее: мужчины или женщины?
— Конечно, женщины. Разве ты когда-нибудь видел женщину, которая вышла бы замуж только потому, что у ее избранника красивые ноги?

☺ — Дорогая, я сегодня опоздаю, иду с друзьями на скачки.
— Не беспокойся, звонила твоя кобыла, сказала, что скачки отменяются.

☺ Жена будит в полночь мужа:
— Ваня, мне кажется, где-то пищит мышь...
— Ну и что ты хочешь от меня? Чтобы я пошел ее смазать?

☺ — Боже мой, Маша, что у тебя с лицом?!
— Да-а.. Муж избил...
— Я думала - он в командировке.
— Вот-вот.. Я тоже так думала.

☺ Мужик тормозит такси, открывает дверь:
— Шеф, до аэропорта за пять минут домчишь?
— Запросто!
Захлопывает дверь:
— Мчи!

☺ Сидят муж с женой за столом и рассуждают:
— Вот ты 600 в месяц получаешь, я - 400, бутылок сдаем на 200. Куда у нас только деньги деваются?

☺ Командир объявляет перед строем:
— Мне нужно десять добровольцев для выполнения опасного задания. Тут же один солдат покидает строй и отходит в сторону.
— Что это значит? - спрашивает его командир.
— Я не хочу мешать добровольцам.

**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Яварoўская Серафіма
Вярбіцкая Маргарыта
Хілько Вікторыя
Рудзько Настасся
Шундрык Дзіяна
Высоцкая Кацярына
Кагуціч Аляксей
Лазар Мікіта



# СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

✝

| | |
|---|---|
| **Чэрнік** Ядвіга Аляксандраўна | 1909 г.н. |
| **Урбановіч** Алег Міхайлавіч | 1963 г.н. |
| **Лаўрысюк** Алена Міхайлаўна | 1971 г.н. |
| **Наўгародскі** Іван Іванавіч | 1912 г.н. |
| **Лагуцік** Анатоль Георгіевіч | 1961 г.н. |
| **Шухно** Мікалай Фёдаравіч | 1941 г.н. |
| **Санюк** Вера Лявонцьеўна | 1920 г.н. |
| **Красніцкі** Анатоль Васільевіч | 1948 г.н. |

# ГОРОСКОП

## С 1 ПО 7 АПРЕЛЯ



**ОВЕН**
Не отказывайтесь от поездки, даже если вам не захочется расставаться с любимыми. Дорога обещает быть благоприятной. Женщины-Овны получат всеобщее признание, массу знаков внимания и, возможно, предложение.

**ТЕЛЕЦ**
Как бы вы не избегали этого, в дорогу отправиться все равно придется. Неплохие финансовые поступления, и в то же время - заметные траты. В сердечных делах - с переменным успехом. Вы слишком требовательны и ревнивы.

**БЛИЗНЕЦЫ**
Обострение хронических заболеваний, повышенный травматизм. В профессиональной сфере возможны новации и предложения, смена работы или перемещение по служебной лестнице.

Обратите внимание на одно из недавних знакомств, оно может оказаться перспективным.

**РАК**
Вам придется решать многочисленные производственные проблемы, вдруг вновь показавшиеся на горизонте. Главное в этот период - не дать трудностям превратиться в барьеры. В личной жизни - сюрпризы и подарки. Деньги придут нетрадиционным путем.

**ЛЕВ**
Обратите внимание на сновидения в выходные дни, особенно с субботы на воскресенье. Проблемы личного характера позовут в путь. Некоторое замедление ритма в работе. Возможна размолвка с одним из деловых партнеров.

**ДЕВА**
Вы переживаете небольшие финансовые трудности, потому возможно и непонимание со стороны близких. Но весна берет свое. Даже самые убежденные пуритане, коих немало в этом знаке могут рассчитывать на новое сердечное увлечение.

**ВЕСЫ**
Остерегайтесь щедрых обещаний со стороны новых деловых партнеров. Скорее всего это - просто блеф. Получение вестей издалека. Напряженная в эмоциональном смысле неделя. Не стоит обращать внимание на завистников или угрозы.

**СКОРПИОН**
Неприятность на работе будет связана с финансами или налоговой проверкой. Вы должны максимально привести все дела в порядок до 4 апреля. Возможны значительные перемены: в доме - вероятен приезд гостей, которые могут задержаться надолго.

**СТРЕЛЕЦ**
Интересное деловое предложение с последующим получением денег. Не исключено даже заключение контракта на долговременный срок. Стрельцы, свободные от брачных уз, буквально кинуться в любовную пучину: по роману в день. Выдержать будет не просто!

**КОЗЕРОГ**
Многие помирятся со своими близкими, после недавнего всплеска отрицательных эмоций. Как бы ни тянуло на прогулку в лес или к реке, в выходные скорее всего придется отправиться в служебную командировку. Обратите внимание на здоровье детей.

**ВОДОЛЕЙ**
То дело, которое еще некоторое время назад казалось вам выгодным и куда были вложены средства, по меньшей мере окажется мыльным пузырем. Хорошо, если вы потратились чуть-чуть. Но как сатисфакция - благоприятная обстановка в доме.

**РЫБЫ**
После 4-го апреля весьма удачные дни для новых предприятий. Вы будете буквально напичканы идеями, а вся поступающая информация окажется весьма кстати. Вот только домашние неурядицы несколько подпортят настроение.

Газета Слонімская
1 — 7 красавіка 1999г., № 14 (95)

**А ЯШЧЭ БЫЎ ТАКІ ВЫПАДАК**

# НІКЧЭМНЫ ПАЛЮБОЎНІК

Сем'і Івана Гугаля і Міхася Банадыка жылі па-суседску ў Рышчыцах. Гадоў 30 ніхто з тутэйшых жыхароў не памятаў, каб яны калі-небудзь пасварыліся паміж сабой. Наадварот, кожнае свята сустракалі разам, па чарзе то ў Іванавай, то ў Міхасёвай хаце. І нават мяжа паміж іхнімі зямельнымі ўчасткамі ні разу не была прычынай спрэчак. Больш таго, на гэтай мяжы суседзі-сябрукі разам змайстравалі прыгожую "шпакоўню", якую кожны з іх наведваў па вядомай патрэбе.

Ды раптам здарылася так, што на працы Міхась Банадык атрымаў цяжкае калецтва, доўгі час хварэў і неўзабаве памёр. Дзетак у Банадыкаў не было. І таму Іван час ад часу дапамагаў яшчэ даволі маладой і прыгожай Міхасёвай жонцы Ларысе па гаспадарцы: то дроў насячэ, то восенню ці вясной агарод узарэ, то вады нацягае. Да таго ж, Ларыса ў юнацтве вельмі падабалася Івану. Ды жыццё распарадзілася па-іншаму. Больш шустры Міхась здолеў падабраць ключы да сэрца прыгажуні Ларысы.

Неяк пад Вялікдзень Іван прывёз на падворак Ларысы з фабрыкі, дзе працаваў вартаўніком, воз сухіх абрэзкаў на паліва. Суседка даўно яго прасіла аб гэтым. А праз гадзіну ён ужо сядзеў на звыклым месцы ў Ларысінай хаце. Выпілі па адной, пасля па другой чарцы. Жанчына заўважыла, што сусед напружана імкнецца ёй нешта сказаць, ды ўсё нешта не асмельваецца. Ларыса памятала пра Іванавы юнацкія пачуцці да яе, а таму не здзівілася, калі Гугаль прапанаваў ёй, нарэшце, патаемнае спатканне. Ларысе, з яе гаротным адзінокім жыццём, раптам захацелася адчуць сябе ў вядомым сэнсе жанчынай. Таму праз некалькі хвілін яна згадзілася.

— Прыходзь сёння да мяне вечарам, як прыцямнее, — сказала яна.

Гугаль вельмі ўзрадаваўся і, пакінуўшы недапітую паўлітроўку, пабег дахаты. Яго жонка Люба, ведаючы, што мужу на працу сёння не трэба ісці, раптам спытала ў яго:

— Чаго гэта ты апранаеш новыя штаны і боты? Табе ж сёння не трэба ісці вартаваць?

Іван спачатку крыху разгубіўся, але праз хвіліну апамятаўся і змахляваў:

— Ды, гэта. Сябрук Пятрусь Канапацкі папрасіў падмяніць яго на сённяшнюю ноч.

— А навошта на дзяжурства новыя штаны надзяваць? — не супакойвалася Люба.

— Ат! Абрыдла ўжо цягаць адны і тыя ж картовікі, — агрызнуўся Іван.

У той вечар, пасля выпітых дзвюх бутэлек, Іванавы рукі нясмела пацягнуліся да Ларысінага стану...

Прачнуўшыся пад раніцу, Іван спачатку спалохаўся, не разумеючы, дзе ён знаходзіцца:

— Дзе я ёсць? Хто тут ёсць?

Ларыса, прачнуўшыся, супакоіла свайго палюбоўніка:

— У мяне ў ложку ты, чаго крычыш?

Галава ў Івана была, нібы цэбар. Моцна хацелася піць, а яшчэ болей — на двор. Уступіўшыся ў Ларысіны галёшы і накінуўшы на плечы нейкі лахман, Гугаль у адной бялізне трушком пабег да той "шпакоўні", што яны ўдваіх з Міхасём некалі ўзвялі. Вяртаючыся адтуль і слаба адчуваючы, на якім свеце знаходзіцца, Гугаль па звычцы павярнуў на сцяжынку, якая вяла да ягонай хаты.

Калі ён у сподняй бялізне падышоў да ганку, жонка раптам адчыніла дзверы і чуць не абамлела:

— А божачкі, што гэта з табою здарылася? Чаму ты ў такім выглядзе?

Гугаль і сам не чакаў такой падзеі, аднак праз некалькі хвілін дапетрыў, што адказаць жонцы:

— Ды, гэта... Абрабавалі мяне, як з дзяжурства вяртаўся!

— І казала ж табе, дурню, як адчувала, не кладзі на сябе новыя штаны і боты? — закончыла Люба і, успомніўшы, што ў суседкі ёсць тэлефон, пабегла да Ларысы паведаміць пра здарэнне ў міліцыю.

Не паспела ўбегчы ў суседчыну хату, як адразу пачала выкладаць:

— Ларысачка! Золатца! Дай патэлефаную ў міліцыю. Майго ж дурня Івана абрабавалі.

Люба не паспела крутнуць дыск тэлефона, як яе позірк спыніўся на канапе, дзе ляжала Іванава вопратка, а побач стаялі боты. Ларыса, змярцвелая, стаяла перад суседкай, не ведаючы, што казаць...

З гадзіну Ларыса апраўдвалася перад Любай. Гаварыла і пра абрэзкі, якія прывёз з фабрыкі Іван, і пра дзве выпітыя ім бутэлькі самагонкі, пасля чаго той упаў на ложак і заснуў, і што нічога такога паміж імі не было.

Люба маўклівая слухала начную споведзь суседкі, а потым толькі спытала ў Ларысы:

— Што, і праўда, ён выжлукціў дзве бутэлькі? Пакажы посуд?

Панюхаўшы абедзве парожнія паўлітроўкі, Люба супакоілася:

— Вось цяпер веру, што паміж вамі нічога не было. Бо мой ахламон пасля дзвюх выпітых пляшак — палюбоўнік нікчэмны! — і, устаўшы, пасунулася дахаты.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

Малюнак Яўгена ІВАНОВА

# СЛОНІМСКІЯ ЖАРТЫ 30-Х ГАДОЎ

***

Граф Чапскі быў даволі цікавым чалавекам і калекцыянерам. Шмат яго экспанатаў знаходзіліся тады ў Слонімскім музеі. Ніколі не шкадаваў ён грошай для Жыровіцкай школы. Але для сябе быў вельмі скупы.

Аднойчы вырашыў ён паехаць са сваім шваграм Гадлеўскім (родам быў з Сынковіч) у Варшаву на пасяджэнне сейма. Чапскі спазняўся на цягнік, ускочыў у апошні вагон і пытае:

— Швагер, гэта вагон трэцяга класа?!

— А што, ёсць яшчэ чацвёртага?

Нагадаем, што вагоны трэцяга класа ў той час былі самымі таннымі.

***

У 1935 годзе прыехаў у Слонім з візітам віленскі епіскап Букараба. У Альбярціне мясцовы ксёндз Слемп хацеў паказаць яму свае поспехі ў вывучэнні рэлігіі сярод школьнікаў. Пытае ў аднаго вучня:

— Скажы, колькі асоб мае Бог?

— Чатыры, — адказвае хлопчык.

— Як чатыры? Называй!

— Святы дух, Бог-бацька, Бог-сын і Бог-раб.

***

Машыніст цягніка Слонім-Баранавічы крычыць:

— Баба, сядай, падвязу!

— Адчапіся, я на кірмаш спяшаюся.

***

Слонімскі суддзя паехаў у Быцень на пасяджэнне суда. Затрымаўся ў карчме ў аднаго яўрэя. Раніцай суддзя крыўдзіўся, што ў прыбіральні вельмі шмат мух. Калі прыйшоў абедаць, іх ужо не было. Пахваліў карчмара.

— Іх няма, бо яны таксама разам з вамі паляцелі абедаць, — сказаў карчмар.

***

У слонімскім судзе абмяркоўвалася справа аднаго згвалтавання. Сведкам выступаў вясковы мужык:

— А што ж, паночку, іду я гэтак вечарам, аж бачу ў кусціку ягадзіца блiснула.

У судовай зале пачуўся смех.

— Не, вы, калі ласка, скажыце, ці бачылі сам факт згвалтавання? — пытаецца суддзя.

— Факта я не бачыў, бо ён ужо быў унутры, — адказаў мужык.

**Сабраў Здзіслаў СТАНКЕВІЧ, г. Слупск (Польшча)**

# Малюе Кірыл Ф.

Начальник штаба
при пожаре выносить в первую очередь

Ты что?! Идиот?! Разве едят суп ножом?!
Сама-то дура! Вилка-то протекает!!

А сейчас пишем контрольную. Готовы?
Ни в одном глазу!

**АЛЬТЕРНАТИВНЫЙ КРОССВОРД**

*от Владимира Вашуты*

**Под одним и тем же номером дано по восемь определений, предстоит не только отгадать загаданные слова, но и найти им соответствующие места в кроссвордной сетке под номерами, указанными в определениях.**

**1**. Здание, где находится городское самоуправление. Государство в Западной Африке. Женское имя. Слесарный ручной инструмент. Начальный момент спортивного состязания. Государство в Северной Америке. Работа на корабле всей командой. Струя воды позади идущего судна.

**2**. Окружающая среда, обстановка. Водный поток, низвергающийся с уступа. Руководство факультетом во главе с деканом. Прославленный советский военный летчик. Старинная русская пляска. В древнегреческой мифологии: ад, преисподняя. Русский писатель. Машина для совершения смертной казни путем отсечения головы.

**3**. Объявление о предстоящих гастролях, спектаклях. Столица государства в Центральной Америке. Азербайджанский композитор, народный артист СССР. Бог моря у древних римлян. Химическое соединение азота с водородом. Армянский композитор, дирижер и этнограф. Вечнозеленый болотный кустарник семейства вересковых. Город в Казахстане.

**ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№12)**

**1**. Сатин. **2**. Габен. **3**. Вилка. **4**. Килим. **5**. Оазис. **6**. Лайка. **7**. Терем. **8**. Щецин. **9**. "Игрок". **10**. Огден. **11**. Ершов **12**. Ореол. **13**. Бекас. **14**. Перов. **15**. Бажов. **16**. "Манас". **17**. Гомер. **18**. Покос. **19**. Скопа. **20**. Октет. **21**. Тенор. **22**. Нерпа. **23**. Давос. **24**. Салоп. **25**. Боков. **26**. Дозор. **27**. Каток. **28**. Радом. **29**. "Берег". **30**. Метод. **31**. Талер. **32**. Лафет. **33**. Пихта. **34**. Кивер. **35**. Ампер. **36**. Смута. **37**. Метис. **38**. Неман. **39**. Армяк. **40**. Аршин. **41**. Нимфа. **42**. Сидяк. **43**. Наган. **44**. Марфа. **45**. Локон. **46**. Колас. **47**. Ватто. **48**. Вазов. **49**. Свояк. **50**. Свита. **51**. Саман. **52**. "Варяг". **53**. Тавро. **54**. Радар. **55**. Афины. **56**. Афера. **57**. Пират. **58**. Риони. **59**. Ранец. **60**. Саван. **61**. Месса. **62**. Венец. **63**. Дрозд. **64**. Кросс. **65**. Траур. **66**. "Гроза". **67**. Репер. **68**. Резус. **69**. Алмаз. **70**. Алиев. **71**. Набат.**72**. Рабар.